www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 62 (4314)**

7 жніўня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА**

## Крэмль спрабуе навязаць Беларусі «смотрящего ФСБ» Міхаіла Бабіча

Каторы дзень у расійскіх і беларускіх СМІ круціцца ролік аб тым, што асноўным кандыдатам на пасаду Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Расіі ў Мінску Масква бачыць Міхаіла Бабіча. Больш за тое, ён можа займець статус асабістага прадстаўніка прэзідэнта Уладзіміра Пуціна. А гэта, як іранізуюць некаторыя аналітыкі, паўнамоцтвы своеасаблівага генерал-губернатара.

Скажыце, калі ласка, ці патрэбна Беларусі такая асоба?

У 2016 годзе Украіна катэгарычна адмовілася ад такога пасла-спецслужбіста.

**ДАСЬЕ**

Міхаіл Бабіч нарадзіўся 28 мая 1969 года ў Разані.

У 1990 годзе скончыў вышэйшае ваеннае каманднае вучылішча. У 1998 годзе – юрыдычны факультэт Маскоўскага інстытута эканомікі, менеджменту і права.

З 1990-га па 1995 год служыў на камандных пасадах у Паветрана-дэсантных войсках і войсках КДБ СССР, браў удзел у баявых дзеяннях.

У 1995 годзе стаў кіраўніком ЗАТ "Карпарацыя "Антэй".

Былі часы, калі займаў пасады, ніякім чынам не звязаныя з ваеннай службай. З лістапада 2002-га па люты 2003 года – старшыня ўрада Чачні. Затым – памочнік Дырэктара пагранічнай службы ФСБ Расіі.

У снежні 2011 года быў прызначаны паўнамоцным прадстаўніком прэзідэнта РФ у Прыволжскай федэральнай акрузе.



**ЖНІВО-2018**

## Не трэба сумаваць…



У Беларусі засталося абмалаціць збожжавыя прыкладна з трэці плошчаў. Калі надвор'е не падвядзе, то літаральна праз тыдзень з хвосцікам камбайны пакінуць палеткі.

Не трэба сумаваць: нягледзячы на больш сціплыя, чым у мінулым годзе, намалоты, без хлеба не застанёмся. На ўчарашні дзень сярэдняя ўраджайнасць з гектара складала 27,8 цэнтнера. Набліжаліся да чатырохмільённай тоны валавога збору.

Засуха, вядома ж, адмоўна адбілася на ўсіх рэгіёнах краіны. Але ж, скажам, гродзенскім аграрыям не трэба плакацца: як-ніяк, а без малога 30 цэнтнераў на круг выходзіць. Амаль столькі ж мае сталічная вобласць. Як, дарэчы, і Брэсцкая.

Выжывалі беларусы тады, калі ўраджайнасць па краіне не дасягала і 20 цэнтнераў, выжывем і на гэты раз – пры сярэдніх намалотах з гектара 27,8 цэнтнера.

**Кастусь ЗІНКЕВІЧ.**

**ПАД ГРАДУСАМ**

## Спёка вернецца ў Беларусь напрыканцы тыдня

У сераду ***8 жніўня*** ў некаторых раёнах, пераважна па паўночным усходзе, пройдуць кароткачасовыя дажджы. Уначы і раніцай магчымы слабы туман. Тэмпература паветра ўначы будзе +11…+16ºC. Удзень чакаецца ад +23ºC па паўночным усходзе да +31ºC па паўднёвым захадзе Беларусі.

У чацвер ***9 жніўня*** надвор'е будуць вызначаць вобласць павышанага атмасфернага ціску і паветраная маса, што паступае з паўднёвага захаду Еўропы. Чакаецца гарачае, пераважна без ападкаў надвор'е. Уначы і раніцай у некаторых раёнах слабы туман. Тэмпература паветра ўначы прагназуецца +11…+17ºC. Удзень будзе ад +25ºC па ўсходзе да +33ºC па захадзе.

Пятніца ***10 жніўня*** чакаецца ў асноўным без ападкаў. Тэмпература паветра ўначы складзе +14…+20ºC, удзень – +27…+33ºC.

**НУ І НУ!**

## Абцасам па галаве

*У Гродне жанчына ўдарыла міліцыянта абцасам па галаве.*

Як паведамляе прэс-служба УУС Гродзенскага аблвыканкама, інцыдэнт адбыўся 5 жніўня ў адной з устаноў грамадскага харчавання ў цэнтры Гродна.

*"П'яная кампанія паводзіла сябе неспакойна,* – паведамляе прэс-служба. – *На выклік прыбыў нарад міліцыі. Здарылася бойка. Адна з удзельніц канфлікту ўдарыла супрацоўніка міліцыі абцасам па галаве".*

Жанчыну затрымалі.

Жыццю супрацоўніка міліцыі нічога не пагражае.

Па факце праводзіцца праверка.

**ГУЧНАЯ СПРАВА**

## «Прафсаюзы могуць звяртацца за дапамогай у замежныя арганізацыі…»

*Учора ў судзе Савецкага раёна Мінска працягнуўся судовы працэс па справе лідараў Беларускага незалежнага прафсаюза РЭП* ***Генадзя Фядыніча*** *і* ***Ігара Комліка.***

Як вядома, яны абвінавачваюцца ва ўхіленні ад выплаты сум падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры.

Працэс пачаўся 30 ліпеня і доўжыцца ўжо больш за тыдзень. За папярэднія дні суд паспеў заслухаць сутнасць абвінавачання, дапытаць сведак і практычна завяршыў вывучэнне пісьмовых матэрыялаў справы.

Многія сведкі на судзе адмаўляюцца ад папярэдніх паказанняў і заяўляюць, што раней яны былі зроблены пад ціскам. А сведка **Вольга Арцёмчык** прызналася, што падчас працы ў прафсаюзе былі спробы спецслужбаў завербаваць яе ў якасці агента, аднак яна адмовілася ад такога супрацоўніцтва.

Нагадаем, што раней сакратарка незалежнага прафсаюза **Юлія Юхнавец** распавяла на судзе, што яна была агентам КДБ і нават атрымлівала за гэта ўзнагароджанне.

Выступіў учора на працэсе і старшыня Кангрэса беларускіх дэмакратычных прафсаюзаў **Аляксандр Ярашук.**

*"Я казаў, што гэтая крымінальная справа не мае ніякіх прававых падстаў, бо Беларусь падпісала канвенцыю Міжнароднай арганізацыі працы, дзе сказана, што Беларусь не можа перашкаджаць свабодзе асацыяцый. Там сказана, што прафсаюзы могуць звяртацца за дапамогай у замежныя арганізацыі. Справа павінна быць спынена!"* – заявіў ён.

Працэс працягнецца сёння, 7 жніўня.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ВІНШУЕМ!**

## Ігару Лучанку – 80!

*6 жніўня народнаму артысту Беларусі і СССР, легендарнаму беларускаму кампазітару Ігару Лучанку споўнілася 80 гадоў. Выпускнік трох кансерваторый, ён пісаў кантаты і рок-оперы, але мільёнам слухачоў стаў вядомы, дзякуючы "жанру малой формы". "Венскі вальс", "Мой родны кут", "Спадчына", "Вераніка" і "Алеся": здаецца, свой самы галоўны экзамен у жыцці прафесар здаў на выдатна. Яго песні ведаюць, любяць, а галоўнае – спяваюць. Напярэдадні юбілейнай даты "Народная Воля" пабывала ў гасцях у сям'і Лучанкоў і даведалася, з якім настроем аўтар залатых хітоў сустракае круглую дату.*



*Знакаміты дом на Янкі Купалы, 7: калісьці суседзямі Лучанкоў тут былі Іван Мележ, Віктар Вуячыч, Тамара Ніжнікава, Аркадзь Куляшоў і многія іншыя прадстаўнікі беларускай творчай эліты.*

– А колькі гасцей у нас пабывала! – *разліваючы духмяную каву, успамінае жонка маэстра Аляксандра Рыгораўна.* – І Гвердцытэлі, і Пахмутава з Дабранрававым, і Талкунова, і Рэнат Ібрагімаў. Памятаю, так старалася яго сустрэць! Гатавала нешта смачнае. А ён прыходзіць і кажа: у мяне сёння разгрузачны дзень – толькі вада. А Хіль! Ігар, памятаеш, як Хіль прыехаў да нас на лецішча? Як заспявае: "Мой родны кут..." Усе суседзі збегліся! Божа мой, які быў дзівосны чалавек, сонечны, абаяльны! А які просты!

**– Ігар Міхайлавіч, здаецца, зорная хвароба вас таксама не кранула?**

– "Хвалу и клевету приемли равнодушно и не оспаривай глупца..." Здаецца, гэта Пушкін сказаў? У мяне было вельмі цікавае, неверагоднае жыццё. Таленавітыя выканаўцы, удзячная публіка. Гэта вялікае шчасце, але дакладна не зорная хвароба.

**– Вы, дарэчы, працавалі прыкладна ў адзін час з яшчэ адным беларускім мэтрам – Эдуардам Ханком. Паміж вамі ніколі не было саперніцтва?**

– Мы вельмі, вельмі розныя. Ды і пра што тут разважаць: пішы, вось і ўсё саперніцтва. А там ужо жыццё пакажа.

**– Ігар Міхайлавіч, а што зараз? Ці пішуцца песні?**

– Часцей ён проста іграе на раялі, – *адказвае за мужа Аляксандра Рыгораўна.* – Я, бывае, нават яго прымушаю: каб трымаў форму. Бетховена іграе, Моцарта.

– А песень не пішу, – *прызнаецца маэстра*. – Ведаеце, няма ўжо маіх выканаўцаў. Сышлі Віктар Вуячыч, Валянціна Талкунова, Эдуард Хіль. Няма ўжо тых "Песняроў", Валодзі Мулявіна няма…

*Дарэчы, свае самыя знакамітыя хіты Лучанок напісаў менавіта для Мулявіна і стаў ці не адзіным беларускім кампазітарам, з якім "Песняры" супрацоўнічалі настолькі актыўна. Хаця першая сустрэча майстроў была далёкая ад ідэальнай, успамінае Ігар Міхайлавіч.*

– Мулявін тады эксперыментаваў, вельмі захапляўся "Бітлз". І вось – рэпетыцыя ў філармоніі, а ў зале чамусьці толькі я адзін. Валодзя паіграў, пашумеў, а потым і кажа: "Ну што, не падабаецца?" А я хлусіць не стаў. Кажу: так, не падабаецца.

– Затое як яны потым сябравалі з "Песнярамі"! – *падхоплівае Аляксандра Рыгораўна.* – А якія гастролі ў іх былі па Амерыцы! Яны ж увесь кантынент аб'ездзілі з канцэртамі.

**– А вы былі дома і ўвесь час чакалі?**

– Былі часы, калі і разам ездзілі – на Ціхаакіянскі флот, напрыклад. Я яму заўсёды казала: "Ігар, усе людзі едуць летам у Крым, а мы – на Поўнач". Але ўсё роўна якія ўспаміны, якія ўражанні! І творчыя людзі гэтыя... Даглядала за імі, а што рабіць? Памятаю, ездзіў з намі Алесь Ставер. А ён, як і Ігар, мог як устаў, так і пайсці. Я яму кажу: "Алесь, дай я табе штаны адпрасую". А ён: "Ай, Шурачка, добра і так!" Ну нарэшце быццам угаварыла. Але дзе там! Ставіць ультыматум: прасуй, але толькі каленкі! А ўвогуле, неверагодныя былі людзі, фанатычныя, адданыя сваёй прафесіі. Хіба ўсё гэта раскажаш? Бывае, пачну глядзець фатаграфіі і думаю: як мы гэта ўсё маглі аб'ездзіць?

**– Але была і проза жыцця?**

– Вядома, жыць з такім таленавітым чалавекам няпроста. Характар у яго мяцежны, рэзкі. Але ўстанеш зранку – і музыка гучыць. Дзверы ў кабінет не адчыняеш, толькі ціхенька побач стаіш. Наогул, калі я выйшла замуж – адразу зразумела: яго нічога не цікавіць, акрамя музыкі. Так што дзеці, побыт – усё гэта было на мне.

*Разам яны ўжо 53 гады. Калісьці яна, студэнтка Брэсцкага музычнага вучылішча, прыехала на канікулы ў дом адпачынку. Будучага мужа сустрэла ў бібліятэцы. Малады кампазітар павярнуўся, паглядзеў і, як ёй здалося, адразу заўважыў.*

– Мы ж тады і твой дзень нараджэння адзначылі, памятаеш? – *усміхаецца Аляксандра Рыгораўна.*

– Так, я пазнаёміў Сашу са сваёй мамай, – *кажа Ігар Міхайлавіч*. – Яна тады пачаставала нас чарэшняй, мы купілі шампанскага, так і святкавалі.

– Увогуле, калі мы пазнаёміліся, ён быў такі худзенькі, несамавіты, здароўе яго ніколі не песціла, – *працягвае гісторыю знаёмства Аляксандра Рыгораўна.* – Але, калі садзіўся за інструмент, пераўвасабляўся, станавіўся неверагодна рамантычным або дзёрзкім, смелым.

**– А ў жыцці паўсядзённым? Хто ўсё ж такі зрабіў першы крок?**

– Так і не ўзгадаеш. Але памятаю: прыязджаю пасля нашых вакацый першага верасня ў вучылішча – а ў мяне тэлеграма з віншаваннямі. Сталі перапісвацца, я прыязджала ў Мінск на канікулы да свайго дзядзькі. З Ігарам мы тады праводзілі ўсе вечары. Хадзілі ў філармонію, у оперны тэатр.

**– Бацькі як ставіліся да вашага захаплення?**

– Мама ў мяне была вельмі строгая. Калі я працавала ўжо па размеркаванні ў Пінску, Ігар напісаў: прыязджай у Ленінград. Ён толькі-толькі тады стаў аспірантам. Ну, мама і сказала мне: калі збіраешся замуж – едзь, а калі не, дык гэта несур'ёзна. Вось так пасля Ленінграда мы адразу і пайшлі ў загс.

– А памятаеш, якое шчасце было, калі нам "двушку" далі за філармоніяй? – *смяецца Ігар Міхайлавіч.*

– Так, мы ж амаль год жылі паасобку. Я – у Пінску, а ён тут працаваў. Божа мой, як мы радаваліся, калі ў нас з'явіўся свой куток! – *пацвярджае Аляксандра Рыгораўна.* – Бывае, бяжыш дадому – "Песняры" маладыя стаяць. Ці гляджу ў акно – Ігарок ідзе з філармоніі. І я ўжо чайнік стаўлю, чакаю. Дарэчы, кватэру тады мы атрымалі за "Памяць сэрца" *(песня Ігара Міхайлавіча Лучанка, з якой на ўсесаюзным конкурсе ў Маскве перамог Віктар Вуячыч).*

**– А сёння? Народнага артыста СССР не забываюць, падтрымліваюць?**

– Вядома, ёсць да пенсіі нейкія надбаўкі. Але, як вядома, вялікія грошы – гэта вялікае зло. Так што ўсяго ў нас хапае. Мы, праўда, людзі небагатыя, але і не жабракі. Ды большага нам і не трэба. Было б здароўе.

**– Яго вам і пажадаю, Ігар Міхайлавіч, у такі вялікі, салідны юбілей!**

– Ай, кіньце вы! – *адмахваецца на развітанне маэстра.* – Ну што гэта за свята ўвогуле? Ніколі не разумеў. Трэба быць вечна маладым, а не лічыць гады.

**Аліна СТРАШКЕВІЧ.**

*(Пра І.М. Лучанка чытайце яшчэ на 6-й стар.)*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Легкое телесное повреждение

В конце июля в Борисовском районном суде завершился процесс, на который не обратили внимание наши правозащитники. Полковника Сергея Городинского осудили на два года колонии общего режима и штраф 8575 рублей в пользу государства.

Дело было не о дедовщине. Ночью сержант и двое рядовых перевернули кровать, на которой спал их сослуживец, в результате чего боец упал и получил легкие телесные повреждения, ударившись головой об угол тумбочки. Полковник разобрался, применил дисциплинарное взыскание, но начальству докладывать не стал, за что и поплатился.

На фоне общего информационного потока о происходящем в армии – начиная с дел о доведении до самоубийства (или все-таки об убийстве?) и заканчивая незаконной торговлей огнестрельным оружием – дело Сергея Городинского лично мне кажется какой-то нелепостью. («Легкие телесные повреждения» – звучит почти смешно, когда вспоминаешь слезы матери Александра Коржича, которого то ли довели до суицида, то ли убили). Но тут вроде бы все по закону. Положено два года – дали два года. При этом я лично не исключаю, что полковник Городинский был вполне добросовестным офицером и серьезных взысканий до сих пор не получал. Во всяком случае газета «Во славу Родины» в 2017 году – еще за год до суда, но уже после имевшего место происшествия – писала о возглавляемом им воинском подразделении во вполне хвалебном тоне и даже разместила на сайте фотографию полковника.

Почему же сейчас – приговор? Потому что не исполнил устав – не доложил вышестоящему начальству о происшедшем.

А раньше – всегда докладывал? И остальные – они тоже докладывали о мелком хулиганстве рядовых и сержантов, совершавших поступки, следствием которых становились легкие телесные повреждения их сослуживцев?

Думаю, что нет. Думаю, что дело заканчивалось «губой», нарядами вне очереди, чем-нибудь подобным. Помните, как любят говорить наши армейские идеологи: «Наша армия должна воспитывать настоящих мужчин!». Вот таким образом «по-отечески» и воспитывает. Кого – по-отечески, кого – «по-дедовски».

Но судили Сергея Ивановича Городинского вовсе не за это. А за то, что разбирался сам. Не по уставу.

Ничего не поделаешь. Устав – это закон. Закон нужно исполнять строго, даже если вдруг произошла какая-то мелочь, как тебе кажется. Иначе из добросовестного гражданина ты сам превращаешься в преступника – в полном соответствии опять-таки с законом.

Проблема в том, что, образно говоря, вся страна живет у нас не вполне по законам. И органы государственной власти – по большому счету – сами не всегда закону следуют. Руководители разного уровня убеждены в том, что цель оправдывает средства, что поставленная задача должна быть решена любой ценой. Нет, не оправдывает. И не любой ценой. И для того, чтобы определить меру наказания подчиненного за совершенный проступок, нужно поступать по уставу, а не согласно собственному разумению. Даже в том случае, если речь идет всего лишь о легком телесном повреждении.

В масштабах всей страны, собственно, этот суд – легкое телесное повреждение, хотя и для самого Сергея Ивановича, и для его семьи, и, наверное, для большинства его сослуживцев тяжелейшая психическая травма. Именно поэтому, из-за кажущейся легкости, приговор этот скоро будет забыт. В лучшем случае – старшим офицерам и командирам подразделений на очередном совещании по улучшению идеологической работы в армии напомнят о судьбе полковника как об ошибке одного офицера, на которой следует учиться всем.

Пройдет время, на армейском корпусе появятся новые шрамы от новых «легких телесных повреждений» – потому что страна, в которой неисполнение буквы закона превращается в генеральную установку, транслируемую всем и каждому, обречена на новое и новое повторение подобной ситуации. Только на этот раз телесные повреждения были нанесены в полку связи, завтра это случится в казарме спецназа, послезавтра – в общежитии университета, пока дело не дойдет до фабричного цеха, банковского филиала, IT-фирмы. Общество разделено на социальные группы, и представители одной группы не учатся на примерах и судьбах представителей другой. А вот общая атмосфера легкомысленного отношения к закону транслируется, сгущается, доходит до каждого и заражает его. Какой-такой закон? Устав, говорите? Не стоит. Домашними средствами обойдемся.

ВНИМАНИЮ РОДИТЕЛЕЙ

## Планируйте, как отдохнуть с детьми…

Министерство образования вывесило на сайте расписание четвертей предстоящего учебного года:

первая четверть – с 1 сентября по 27 октября 2018 года;
вторая – с 8 ноября по 22 декабря 2018 года;
третья – с 8 января по 23 марта 2019 года;
четвертая – с 1 апреля по 31 мая 2019 года.

Каникулы будут проходить по следующему графику:

осенние – 10 дней, с 29 октября по 7 ноября 2018 года включительно;
зимние – 15 дней, с 24 декабря 2018 года по 7 января 2019 года включительно;
весенние – 6 дней, с 25 марта по 30 марта 2019 года включительно;
летние – 92 дня, с 1 июня по 31 августа 2019 года.

У девятиклассников летом экзамены, поэтому отдыхать они смогут только с 13 июня.

ЭКОНОМИКА

## На 15 предприятиях Минска работникам не платят зарплату

Все они взяты под жесткий контроль Мингорисполкома.

Речь об этом 6 августа шла на оперативном совещании в мэрии.

В основном это строительные компании и подразделения Министерства промышленности. По заверению руководителей этих структур, долги будут погашены в полном объеме до конца этой недели. Основные причины несвоевременных выплат – тяжелая экономическая ситуация, рост убытков, а также недостаточный портфель заказов.

ЧУЛІ?

## Павел Латушка прывязе ў Мінск французскіх бізнесменаў

*Беларуска-французскі бізнес-форум пройдзе восенню ў Мінску.*

*Пытанні яго арганізацыі абмяркоўваліся на сустрэчы пасла Беларусі ў Францыі Паўла Латушкі з намеснікам дырэктара Дэпартамента кантынентальнай Еўропы МЗС Францыі Нікаля дэ Лакостам.*

"Дыпламаты ўзгаднілі парадак правядзення восенню ў беларускай сталіцы трэцяга пасяджэння сумеснай камісіі па эканамічным супрацоўніцтве, абмеркавалі праект парадку дня, – наведамляе belta.by. – Дасягнуты дамоўленасці аб арганізацыі ў гэты ж час пятага беларуска-французскага бізнес-форуму, Латушка і яго французскі калега таксама выказалі зацікаўленасць прадоўжыць узаемадзеянне па падрыхтоўцы да падпісання пагаднення аб супрацоўніцтве ў галіне вышэйшай адукацыі паміж дзвюма краінамі".

ГУЧНАЯ СПРАВА

Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:

# «Збіраюся абараняць права на прыватнае жыццё!»

*Былы старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька больш за пяць месяцаў не можа атрымаць ад прадстаўнікоў ГУУС Мінгарвыканкама відэазапіс, на якім зафіксавана, пры якіх абставінах амапаўцы нібыта ратуюць яму жыццё.*

"Народная Воля" паведамляла, што 9 лютага Анатоля Лябедзьку затрымалі на Брэстчыне за кіраванне аўтамабілем без пасведчання кіроўцы. Як аказалася, у палітыка на той час амаль год як скончыўся тэрмін дзеяння правоў, аднак атрымаць новыя ён не можа – яму не выдалі медыцынскую даведку. З-за таго, што ў маі 2016 года ён раптам страціў прытомнасць. Здарылася гэта недалёка ад прэзідэнцкай рэзідэнцыі на праспекце Пераможцаў. Лябедзька дагэтуль не выключае, што ў той дзень яму дапамаглі страціць прытомнасць.

14 лютага на сайце ГУУС Мінгарвыканкама з'явіўся кароткі ролік (крыху больш за хвіліну), у якім бачна, як супрацоўнікі АМАП аказваюць дапамогу Анатолю Лябедзьку. У каментары гаварылася: *«Палова на сёмую вечара 6 мая 2016 года. Ля краю праезнай часткі па вуліцы Арлоўскай у Мінску аўтапатруль ГУУС Мінгарвыканкама заўважыў мужчыну. Канвульсіі, хрыпы і пена з рота сведчылі пра тое, што ў яго магчымы эпілептычны прыпадак. Супрацоўнікі АМАП неадкладна кінуліся на дапамогу...»*



Анатоль Лябедзька сцвярджае, што здаровы, як конь.

На відэа чалавек, вельмі падобны на Анатоля Лябедзьку, ляжыць на зямлі, адзін амапавец расцісквае яму зубы, а другі стараецца перавярнуць яго тварам да камеры. Хто ўсё гэта збоку фіксуе на відэа – не вядома.

Пасля гэтага здарэння Анатоль Лябедзька прайшоў шэраг медыцынскіх абследаванняў, прычым палітык свядома кансультаваўся з дактарамі дзяржаўных клінік, але пасведчанне кіроўцы пакуль так і не атрымаў.

*"Дактары мне сказалі, што мяне можна ў космас адпраўляць!* – распавядаў Лябедзька ў інтэрв'ю "Народнай Волі". – *Але даведку, неабходную для атрымання пасведчання кіроўцы, выдаць адмовіліся. У кулуарах урачы патлумачылі, што ў дадзеным выпадку не яны прымаюць рашэнне – спецслужбы. Я яшчэ спытаўся ў дактароў: але ж я пасля гэтага выпадку больш за год ездзіў за рулём, ніхто не выставіў ультыматум, што мне нельга за руль садзіцца! Яны толькі плячыма паціснулі і нагадалі, што я маю права абскардзіць рашэнне ўрачоў у судзе".*

– Днямі я нарэшце датэлефанаваўся ў ГУУС Мінгарвыканкама і паразмаўляў з тымі, хто мусіць несці юрыдычную адказнасць за паперы, – *распавёў Анатоль Уладзіміравіч "Народнай Волі".* – Мне сказалі: маўляў, вам даслалі адказ яшчэ ў сакавіку! А тое, што я так і не атрымаў адказу на свой запыт, накіраваны, між іншым, заказным лістом, патлумачылі дрэннай работай пошты. Потым увогуле паведамілі, што чалавек, які рыхтаваў мне адказ, звольніўся і перад сыходам пачысціў свой камп'ютар. Вось дык справаводства!

Потым мне ўсё ж патэлефанавалі і паведамілі, што я магу забраць неабходныя мне паперы. Я з самага ранку прыехаў у ГУУС. На ўваходзе мне прапанавалі пачакаць супрацоўніка, які спусціцца за мной са свайго міліцэйскага Эверэста. Потым высвятлялі, у якім кабінеце знаходзяцца паперы. Я чакаў 45 хвілін. І сышоў. Бо не разумею такога стаўлення і такой гульні ў пінг-понг. Яшчэ праз некаторы час мне патэлефанавалі і здзіўлена запыталіся, куды я знік. Я папрасіў, каб мне яшчэ раз даслалі афіцыйны адказ на хатні адрас. Думаю, бліжэйшым часам я ўсё ж атрымаю неабходныя паперы.

Я па-ранейшаму перакананы, што нейкае ўздзеянне на мяне было. Таму што я ніколі за сваё жыццё не губляў прытомнасць. І пасля гэтага ніякіх праблем са здароўем у мяне не было, я год пасля таго здарэння ездзіў за рулём і ніхто, у тым ліку медыкі і міліцыя, не выказвалі мне ніякіх прэтэнзій.

Я запрасіў у прадстаўнікоў ГУУС Мінгарвыканкама поўны варыянт відэа, для таго каб была магчымасць усё прааналізаваць і звярнуцца ў суд. Да таго ж публікацыя таго роліка без майго асабістага дазволу – гэта парушэнне законаў і спроба ўмяшання ў маё асабістае жыццё.

**Марына КОКТЫШ.**

ПОЛИТКУХНЯ

# Кого белорусы будут выбирать осенью 2019-го – президента или депутатов?

*Власть раскроет карты относительно ближайшей электоральной кампании только в апреле.*

Пока белорусские власти говорят о необходимости развести президентские и парламентские выборы 2020 года (одна из этих кампаний может стартовать досрочно в 2019 году), в оппозиционных кругах присматриваются к потенциальным фаворитам избирательной гонки в своем лагере.

Сроки президентских и парламентских выборов определит глава государства в своем ежегодном послании народу и Национальному собранию в 2019 году. Такое мнение в интервью Радио Свобода высказала председатель Центризбиркома Лидия Ермошина.

Обычно Александр Лукашенко выступает с таким посланием в апреле, было лишь два случая переноса на май.

## О сроках и бюджетах

По действующему законодательству президентские выборы должны пройти не позднее 30 августа 2020 года, а парламентские – не позднее 10 сентября 2020 года. И поскольку руководство страны через главу Центризбиркома декларирует желание развести эти кампании, то вполне резонно предположить, что одна из них состоится в 2019 году. Ермошина некоторое время назад даже называла желательный срок – осень 2019-го, но отказалась рассуждать, какие выборы лучше провести раньше.

Если и в самом деле будет избран этот срок, то уже в текущем 2018 году при принятии республиканского бюджета на будущий год следует предусмотреть расходы на выборы.

В 2015 году президентские выборы, судя по итоговому отчету Центризбиркома, обошлись в 176 млрд неденоминированных рублей (тогда примерно 12 млн долларов), выборы в Палату представителей в 2016 году стоили 19 млн деноминированных рублей (тогда примерно 9,6 млн долларов).

Каждый раз Центризбирком тратит на электоральную кампанию чуть-чуть меньше средств, чем предусмотрено бюджетом, но в общем расходы на все выборы крутятся около 10 млн долларов, поэтому по сумме расходов на выборы, которые могут быть заложены в бюджет-2019, гадать, какие именно выборы будут назначены, не стоит.

В любом случае, если выборы будут назначены, предположим, на сентябрь 2019 года, то формирование избирательных комиссий и выдвижение кандидатов начнется в мае-июне. То есть все заинтересованные получат месяц на то, чтобы настроиться на президентские или парламентские выборы, – приобщатся к знанию, которым уже будет долгое время обладать высокое начальство.

## И снова о едином кандидате

В оппозиционных кругах пока больше говорят о подготовке к президентским, а не парламентским выборам, хотя власти свои карты еще не раскрывали.

Это значит, что в апреле будущего года оппозиции, возможно, придется на ходу перестраиваться с президентских на парламентские выборы, когда важно иметь сотни местных избирательных штабов, активистов с амбициями, готовых претендовать на мандат депутата Палаты представителей.

Впрочем, вполне возможно, что президентские выборы пройдут раньше парламентских, и тогда поиск единого кандидата в президенты, о чем заговаривают в последнее время оппозиционные лидеры, окажется вполне своевременной идеей. Впрочем, своевременной – это еще не значит успешной.

Не факт, что все игроки согласятся воспринять идею единого кандидата. Политические структуры ставят перед собой самые разные цели и вполне могут находить выгоду от номинального участия в президентских выборах – без надежды на успех.

В этом случае как минимум политик на всю жизнь приобретает статус бывшего кандидата в президенты, а выдвинувшая его структура некоторое время гордится, что оказалась способна на сам факт выдвижения кандидата в президенты из своей среды.

Это низшая планка. Сейчас нет разговоров о мобилизации пассивного большинства сторонников перемен, которые якобы равнодушны к нынешней оппозиции, но при этом индифферентно или отрицательно относятся к правящему режиму. В общем-то на этот счет нет данных независимой социологии, но главное – тема выпала из риторики белорусских политиков.

Также не слышно в оппозиционной среде разговоров о надежде на победу на президентских выборах. В правоцентристской коалиции признают, как отметил в одном из интервью лидер движения «За Свободу» **Юрий Губаревич**, что *«сегодня ни одна политическая сила не способна самостоятельно собрать подписи за (выдвижение кандидатом в президенты) своего представителя»*.

Если партия, в которой, как уверяют лидеры, состоят три-пять тысяч человек, не может самостоятельно собрать 100 тысяч подписей избирателей за выдвижение кандидата в президенты, то она не является «политической машиной» в том смысле, как это понимается на Западе, – не ставит целью борьбу за власть.

В общем-то при движении от дефицита демократии к авторитаризму партии волей-неволей превращаются в фикцию. И это в Беларуси уже случилось. Другое дело, что пока дискуссионным остается вопрос о способности вот таких слабых игроков в современных белорусских условиях объединяться в коалицию и уже совместными усилиями создавать «политическую машину».

Если мы отвечаем «да», то имеет смысл поднимать знамя единого кандидата и создавать единый штаб демократических сил. Если ответ «нет», то политические цели снимаются с повестки дня.

## Праймериз: хороший вариант или утопия?

Судя по всему, положительный ответ на этот вызов ныне пытаются дать лишь члены правоцентристской коалиции (Объединенная гражданская партия, движение «За Свободу» и оргкомитет по созданию партии «Белорусская христианская демократия»).

Недавно уступивший бразды правления в Объединенной гражданской партии **Анатолий Лебедько** много лет выступает с идеей проведения праймериз для выборов единого кандидата от оппозиции.

В свое время статус единого кандидата предоставлял Конгресс демократических сил, который являлся в общем-то внутриоппозиционным форумом. За что и критиковался, так как не давал уверенности, что понравившийся делегатам конгресса деятель будет симпатичен значительной доле избирателей.

Теоретически праймериз могли бы ответить на этот вызов, предоставив возможность всем желающим выдвигать любого кандидата, а потом и голосовать за него. Однако тут возникает много рисков, связанных с возможными манипуляциями как со стороны организаторов праймериз, так и со стороны голосующих.

Если же право голоса на праймериз давать только сторонникам оппозиционных структур, организующих этот процесс, то вся процедура вновь-таки превращается во внутриоппозиционное голосование. А ведь именно этого хотят избежать.

Таким образом, некоего универсального, эффективного и вызывающего доверие механизма определения оппозиционного чемпиона, который мог бы реально конкурировать с действующим президентом, на сегодня нет.

## Набор персоналий в бюллетене определят власти

Нет и настоящего единства в демократических силах, а значит, с их стороны невозможно воспрепятствовать вероятному параду оппозиционных кандидатов в президенты, когда их обилие дробит голоса недовольного режимом электората.

Это значит, что Лукашенко предстоит самостоятельно решать, много или мало персоналий стоит включить в бюллетень для голосования в ходе грядущей президентской кампании.

В новейшей белорусской истории уже несколько раз опробован вариант, когда два оппозиционера оттягивают друг у друга голоса, а спарринг-партнер действующего президента страхует его от вероломного снятия оппозиционерами своих кандидатур.

В этом случае теоретически можно организовать успешное протестное голосование, так как президент считается избранным, если за него проголосовало более половины граждан Беларуси, принявших участие в голосовании.

Была и другая крайность, когда в 2010 году кандидатами в президенты зарегистрировали десятерых и даже регулярный спарринг-партнер не понадобился – те оппозиционные кандидаты в принципе не смогли бы действовать солидарно.

Скорее всего, специалисты по политическим шахматам в Администрации президента сейчас прикидывают разные варианты будущей электоральной кампании, причем держат в голове еще и возможность дополнительно усложнить картину наложением на выборы конституционного референдума.

К весне будущего года некий сценарий будет взят за основу.

**Павлюк БЫКОВСКИЙ.**

naviny.by

БЕЗ КУПЮР

# Владимир Семашко: о сроках ввода АЭС, использовании «строительных» квартир и тарифах на электроэнергию

*Вице-премьер Владимир Семашко часто становится мишенью различных сайтов. Особенно заангажированных, преподносящих любую информацию в черном цвете. Вот уже вторую неделю муссируется его интервью островецкой районной газете. Точнее не все интервью, а только его высказывание насчет того, как возможно в будущем будет решаться вопрос с оплатой за электроэнергию.*

*Читателей «Народной Воли» наверняка интересует полный текст интервью В.И.Семашко. С учетом этого мы решили дать его в полном объеме.*



## Когда запустят станцию?

**– Владимир Ильич, приему граждан предшествовало заседание штаба по сооружению Белорусской АЭС, которое проходило под вашим руководством. По вашей оценке – как идет процесс строительства? Есть ли какие-то проблемные вопросы, которые не решаются или решаются сложно?**

– К проблемам можно отнести то, что в 2016 году при перемещении уронили корпус реактора. Генподрядчик заменил его безо всяких оговорок, но в этой связи немного сдвинулся срок ввода первого энергоблока: он планировался на ноябрь 2018 года, теперь отнесен на декабрь 2019 года. Второй энергоблок и в целом станцию мы запустим в середине 2020 года.

На стройплощадке все идет по графику. Сейчас ведется строительство одновременно 142 различных объектов, начиная от ядерного острова и заканчивая вспомогательными службами и помещениями. В июле мы заканчиваем строительно-монтажные работы. В начале марта следующего года в первый энергоблок должны загрузить ядерное топливо, к концу июля – закончить пуско-наладочные работы и запустить первый блок, чтобы к концу 2019 года выйти на его проектную мощность. А 1 июля 2020 года планируем запустить второй энергоблок.

Задача, конечно, напряженная – но абсолютно реальная.

## Кто заселится в «строительные» квартиры?

**– Строительство города энергетиков также находится под вашим пристальным контролем – или за это отвечают другие люди?**

– Конечно, я в первую очередь отвечаю за строительство АЭС, но станция без города энергетиков существовать не может. Когда президент в первый раз прилетел на площадку строительства Белоруской АЭС, он, выйдя из вертолета, поставил задачу совершенно четко: эта станция должна быть самой надежной, самой современной и самой дешевой. А Островец должен стать самым красивым районным центром страны. И мы стараемся это делать. Параллельно со строительством станции городской поселок Островец превращается в современный город. Мы сразу поставили задачу: строители должны жить в нормальных условиях: после смены принять душ, выспаться, отдохнуть, посмотреть телевизор. Поэтому в соответствии с графиком строительства станции и с его опережением вводилось жилье в новых микрорайонах, оборудованное всем необходимым. Параллельно возводится социальная инфраструктура: детские сады, школы, спортивные сооружения, больница.

Когда строители уйдут, в построенных для их нужд домах будет сделан освежающий ремонт – и эти квартиры смогут на льготных условиях купить те, кто работает на станции или около станции – соответствующий указ президента подписан. В качестве арендного жилья эти квартиры смогут получить и другие специалисты, не работающие на АЭС.

В Островце будут решены и транспортные вопросы. Недавно принято решение о том, что работников станции подвозить на работу будет новый современный вид транспорта – электробусы. По Минску уже ходит 20 таких. Электробусы доказали свою эффективность: это экологически чистый транспорт, для него не надо, как для троллейбусов, ставить столбы вдоль дороги, они процентов на 15 экономичнее троллейбусов. Сам бог велел, имея свою атомную электростанцию, развивать электротранспорт!

## Будут ли льготы на электроэнергию?

**– Многих жителей района интересует вопрос: будут ли преференции населению на оплату электроэнергии?**

– Нет.

Преференции планируются для реального сектора экономики, который сильно перегружен. К примеру, два автомобильных гиганта – белорусский МАЗ и российский КамАЗ, которые работают на одних и тех же евразийских рынках, покупают электроэнергию по разной цене: МАЗ платит 11 центов за киловатт-час, а КамАЗ – 4,5 цента. Думаю, не стоит объяснять, чья продукция будет более конкурентоспособной на рынке? И это касается не только этих предприятий.

Второй момент: нам нужно постепенно уходить от перекрестного субсидирования. В Беларуси сегодня самый низкий тариф на электроэнергию для населения. На Западе население платит за электроэнергию в 2–3 раза больше, чем промышленные предприятия. Например, в Германии около 8,5 цента за киловатт-час платит промышленный производитель, а население – около 27 центов. А у нас наоборот: 11,5 цента платит тот же МАЗ, а частные потребители – около 5 центов. Поэтому тариф для населения постепенно будет подниматься – конечно же, не с бухты-барахты, а по мере роста реальной заработной платы. Люди должны оплачивать реальную стоимость этого киловатт-часа – сегодня же население оплачивает около 80 процентов от себестоимости электроэнергии, газа и того меньше: около 43 процентов.

Ставится задача – дать возможность «раскрутиться», заработать реальному сектору экономики: в этом случае выиграют и люди. Ведь если предприятие будет работать эффективно, внедрять новые технологии, продавать продукцию на экспорт – тогда и у людей будет достойная зарплата. А рост благосостояния человека всегда был в приоритете нашей государственной политики.

ЗДАРЭННІ

# Незвычайны выпадак у Гродне

Як паведамлялася на розных сайтах, у Гродне на мінулым тыдні арыштаваны мужчына, які завабіў двух малалетніх дзяўчынак у пад'езд жылога дома і зрабіў ім ін'екцыю невядомага рэчыва. На яго заведзена крымінальная справа.

## Асобу мужчыны не раскрываюць

Міліцыя пакуль не раскрывае асобу мужчыны. Вядома толькі, што гэта жыхар Гродна 35–36 гадоў. Жыве ў 10–15 хвілінах ад дома, дзе пражываюць дзяўчынкі. Раней у двары дома яго не бачылі. Ён высокага росту, худы, увесь час усміхаўся пацярпелым дзяўчынкам, дружалюбна з імі размаўляў. Апрануты быў у спартыўныя шорты, майку і красоўкі. Так апісваюць яго відавочцы.

## Пакуль многае невядома

Суседзі пацярпелых распавядаюць, што бацькам дзяўчынак нібыта паступіла інфармацыя, што незнаёмец мае псіхічнае расстройства, стаіць на ўліку і адбываў пакаранне за пагрозу забойства. Афіцыйных пацвярджэнняў гэтай інфармацыі пакуль няма.

Маўчаць у міліцыі і адносна таго, якую канкрэтна ін'екцыю ўкалоў адной з дзяўчынак, а другой пырснуў у рот незнаёмец. Шпрыцы, якія былі знойдзены на месцы здарэння, знаходзяцца на экспертызе.

Галоўнае, што зараз хвалюе бацькоў пацярпелых дзяўчынак, – якую ін'екцыю атрымалі іх дочкі ад незнаёмца. Маці пацярпелых звярталася ў міліцыю с просьбай аб тым, каб ёй дазволілі сустрэцца з затрыманым, але міліцыя ў гэтай просьбе адмаўляе. Яна таксама распавяла, што затрыманы сцвярджае, што ён ні ў чым не вінаваты.

## Як гэта здарылася

Гэты незвычайны выпадак адбыўся ў Гродне на вуліцы Дзяржынскага 26 ліпеня. Незнаёмы мужчына прапанаваў дзяўчынкам 5 і 7 гадоў паглядзець на горад з вышыні шматпавярховіка.

Падняўшыся на апошні паверх і ўбачыўшы, што дзверы выхаду на дах зачынены, прапанаваў зрабіць "прывіўкі ад страху" і адной з дзяўчынак укалоў ін'екцыю, а другой пырснуў яе са шпрыца ў рот. Пасля гэтага адвёў дзяўчынак да пад'езда іх дома.

У гэты час з пад'езда выйшаў бацька дзяўчынак, які ўжо шукаў іх. Незнаёмец не падаўся яму дзіўным, паколькі ён вырашыў, што гэта можа быць жылец, які нядаўна засяліўся ў новы дом.

У кватэры бацькі пачалі распытваць дзяўчынак, дзе яны так доўга былі і тыя распавялі, што "хадзілі на дах з невядомым дзядзем, які хацеў ім паказаць горад і зрабіў уколы". Бацькі адразу выклікалі міліцыю і "хуткую дапамогу".

Мужчыну знайшлі і арыштавалі, пратрымалі трое сутак і выпусцілі. Цяпер ён зноў знаходзіцца пад вартай. Вядзецца следства.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

# У Пінскім раёне цягнік збіў мужчыну, які сядзеў на рэйках

*Няшчасны выпадак адбыўся 6 жніўня ў 2.39 на перагоне Ясельда–Пінск.*

Машыніст цягніка міжрэгіянальных ліній Гомель–Брэст убачыў мужчыну, які сядзеў на рэйках. На гукавыя сігналы ён не рэагаваў. Было ўжыта экстраннае тармажэнне, аднак пазбегнуць наезду не ўдалося. Мужчына загінуў на месцы.

Следча-аператыўная група ўстанавіла асобу мужчыны. Ім аказаўся 42-гадовы жыхар Кіраўскай вобласці Расіі, які 3 жніўня прыехаў у госці ў Пінскі раён на вяселле да знаёмай. Каля гадзіны ночы ён пайшоў з дому.

ЭШЕЛОНЫ ВЛАСТИ

# Подпишет ли Василий Матюшевский спорный документ?

*На прошлой неделе стало известно, что коллегия Евразийской экономической комиссии утвердила Общий техрегламент «О требованиях к энергетической эффективности энергопотребляющих устройств». Специалисты говорят, что это большой скандал, потому что белорусские эксперты и представители Госстандарта были крайне недовольны этим документом.*

Подпись под документом поставил член коллегии (министр) по техническому регулированию ЕЭК **Валерий Корешков.**

При этом в СМИ уже не первый месяц обсуждают предстоящую замену белорусских чиновников в ЕЭК. Сообщалось, что Валерий Корешков и член коллегии (министр) по промышленности и агропромышленному комплексу ЕЭК **Сергей Сидорский** покидают свои посты.

Как известно, с 1 сентября прошлого года и 1 июля этого года вступили в силу национальные требования по энергоэффективности для бытовой техники и электроники. Требования для допуска товаров на рынок ввели для десяти групп продукции, включая электродвигатели, внешние источники питания, лампочки, стиральные машины, холодильники, кондиционеры, электродуховки и конфорочные панели, а также бытовое и офисное оборудование, работающее в режиме ожидания. В Госстандарте объясняли: введение национальных технических стандартов будет существенно сдерживать поток разного технического хлама, которого сейчас в избытке на белорусском рынке, в отличие, например, от соседней Польши. И Россия всячески сопротивлялась введению этих требований, ведь речь идет о поставках на сотни миллионов долларов!


Василий Матюшевский

Ответственной за разработку Общего техрегламента, кстати, была российская сторона.

*«Трижды финансировали разработку этого регламента, трижды деньги успешно осваивались, но до сегодняшнего дня документ так и не был доведен до приемлемого состояния,* – рассказывали эксперты о работе над техрегламентом. – *По заключению юридического департамента ЕЭК, содержание техрегламента не соответствует названию, присутствует путаница в терминах и определениях. Не выполнены принципиально важные процедуры, обязательные при разработке и принятии техрегламентов. Абсолютно неподготовленный документ пытались принять под предлогом того, что, мол, там нет принципиальных аспектов, поэтому примем, а потом доработаем. Госстандарт Беларуси сказал на это категорическое «Нет!».*

Несмотря на возражения с белорусской стороны, решение коллегии Евразийской экономической комиссии о принятии техрегламента уже есть. Дело за малой формальностью – документ должны подписать вице-премьеры. От Беларуси право подписи у **Василия Матюшевского**.

***Чем грозит Беларуси подписание Общего техрегламента?***

Как только принимается регламент, определяется так называемый переходный период – с даты его принятия до даты окончательного вступления в силу. Как правило, на это уходит несколько лет. На протяжении переходного периода не работают никакие требования, и национальные в том числе.

*«Дело в том, что в вопросах энергоэффективности мы ушли далеко вперед от многих стран СНГ, была проделана огромная работа, мы вышли почти на европейский уровень (при том, что проектом единого техрегламента закладываются устаревшие европейские требования, которые отбрасывают Беларусь на 10 лет назад),* – объясняют эксперты. – *Через пару лет в Беларуси президентские выборы, а это значит, что если кто-то снова захочет заручиться поддержкой России, то пойдет на любые уступки, и не будет ставить барьер для того технического хлама, который поступает на наш рынок из России».*

Почему белорусский чиновник, откомандированный в Москву, все же поставил свою подпись под сырым документом, который ущемляет интересы белорусских производителей?

*«Мы узнаем об этом позже, когда, возможно, увидим его на должности советника в «Газпроме» или в другой процветающей российской компании с хорошим окладом,* – высказывают версии аналитики. – *В хоккее такой прием называется «гол в раздевалку». Это очень обидно, когда кто-то на последних минутах забивает переломный или решающий гол с нарушением правил…»*

Кстати, не исключено, что в ближайшее время заинтересованные белорусские ведомства будут готовить протест и настаивать на отмене решения коллегии ЕЭК. Но вот удастся ли отыграться – пока вопрос.

